№ 16(139)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Верасень 2012 г.

## “ХАЦЕЛІ, ЯК ЛЕПШ, А АТРЫМАЛАСЯ, ЯК ЗАЎСЁДЫ...”

***“В ближайшие пять лет ко всем областным центрам из Минска будут построены автобаны немецкого образца.”- заявіў Аляксандр Лукашэнка 9 верасня 2011 года, адказваючы на пытанні журналістаў.***

***Па яго словах, прыкладна праз 5 год да кожнага абласнога цэнтра з Мінска будуць пабудаваны аўтабаны нямецкага ўзроўню. Частка работ на той момант, па яго словах, ужо завершана, альбо яны працягваюцца. Некалькі год таму завершана будаўніцтва трасы з Мінска ў Брэст, вядуцца работы на магілёўскім накірунку...***



Будаўніцтва аўтабанаў па нямецкаму ўзору было даручана беларускаму Ураду.

Кантороль за ходам будаўніцтва аўтатрасы Мінск – Магілёў узяў на сябе непасрэдна прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

Міхаіл Уладзіміравіч з усёй адказнасцю ўзяўся за справу і, як ў былыя савецкія часы, прыняў на сябе павышаныя “сацыялістычныя”абавязанні. Захацелася зрабіць свой унёсак да свята “Дажынкі-2012”…

“Дарога павінна быць уведзена ў эксплуатацыю да 1 студзеня 2013 года, і мы ставім задачу, каб асноўныя работы на ёй завяршыліся да 1 верасня”, - падкрэсліў кіраўнік беларускага ўрада 14 сакавіка 2012 года ў час азнаямляльнай паездкі па ходзе рэканструкцыі дарогі і выкананні графіка работ.

Міхаіл Уладзіміравіч быў вельмі не задаволены некаторымі падыходамі і паставіў новыя задачы, каб ва ўзгодненыя тэрміны работы былі завершаны. Па яго меркаваннях, на гэтай дарозе запраектавана шмат развязак і іншых штучных збудаванняў,

*(Заканчэнне на стар. 2)*

## ЛАБКОВІЧ: УЛАДА ПАТРАБУЕ ПРАВЕСЦІ ВЫБАРЫ МАКСІМАЛЬНА НЕЗАЎВАЖНА ДЛЯ ГРАМАДСТВА

Улады зрабілі ўсё дзеля таго, каб максімальна абмежаваць магчымасці агітацыйнай кампаніі. Пра гэта Рацыі заявіў прадстаўнік кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” Уладзімір Лабковіч. Па яго словах, выступы кандыдатаў у дэпутаты на тэлебачанні і публікацыі іхніх выбарчых праграм у газетах трапляюць пад цэнзуру, перадвыбарчая агітацыя ў рэгіёнах дазволена ў максімальна нязручных месцах.

Апроч таго, як кажа Уладзімір Лабковіч, улады не даюць кандыдатам сустрэцца са сваімі выбаршчыкамі і адмаўляюцца друкаваць улёткі.

- На дадзены момант сённяшняй уладзе можа і неатрэбныя кандыдаты, таму самае галоўнае, на што скіраваны сённяшнія выбарчыя камісіі – увогуле зрабіць іх максімальна незаўважнымі, каб яны ніякім чынам ні на што не маглі паўплываць. На жаль, трэба адзначыць, што беларускія грамадзяне пазбаўлены магчымасці атрымання поўнай і ўсебаковай інфармацыі аб кандыдатах, аб іх праграмах.

Па словах Уладзіміра Лабковіча, з самага пачатку агітацыйнай кампаніі назіральнікі кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” фіксуюць факты выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу на карысць праўладных кандыдадаў. Апроч таго, передвыбарная агітацыя суправаджаецца ціскам на дэмакратычных кандыдатаў і грамадскіх актывістаў з боку дзяржаўных структур.

***Аляксандр Ярашэвіч, Радыё Рацыя***

# “ХАЦЕЛІ, ЯК ЛЕПШ, А АТРЫМАЛАСЯ, ЯК ЗАЎСЁДЫ...”

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

мэтазгоднасць якіх выклікае пэўныя сумненні.

Тут жа ім былі дадзены даручэнні па скарачэнню шэрагу работ па праекту без пагаршэння, на яго думку, якасці і хуткасных рэжымаў трасы.

І што тут пачалося...

Па словах некаторых работнікаў, занятых на будаўніцтве дарогі, такога аўрала яны яшчэ ніколі не бачылі. Дзеля скарачэння тэрмінаў выканання работ, на недабудаваных аб’ектах дарогі былі допушчаны шматлікія парушэнні ў выкананні тэхналагічных працэсаў будаўніцтва.

А самае цікавае адбылося там, дзе будаўнікі не паспелі завяршыць будаўніцтва некаторых развязак і збудаванняў. Як, напрыклад, развязкі ў месцы прымыкання да аўтабана аўтадарогі рэспубліканскага значэння Быхаў – Бялынічы каля вёскі Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна.

Будаўніцтва дадзенай развязкі да часу азнаямляльнай паездкі Мясніковіча паводле праекта было выканана на 50%. Пасля распараджэння прэм’ер-міністра будаўніцтва развязкі было згорнута.

Але ж заезд на аўтабан з дарогі Быхаў-Бялынічы павінен быў якімсьці чынам выкананы...

У выніку расходы фінансавых сродкаў на перапраектаванне, будаўніцтва новага варыянта і ліквідацыю 50% ужо адбудаванай развязкі пераўзышлі па колькасці неабходныя сродкі на завяршэнне будаўніцтва развязкі згодна першапачатковага праекта.

Ну, падумаеш, патрацілі лішніх некалькі соцен мільёнаў рублёў...Галоўнае – угадзілі Мясніковічу.

І такіх рашэнняў, прынятых па распараджэнню прэм’ер-міністра, можна заўважыць шмат.

Як бы не стараліся будаўнікі выканаць указанні Мясніковіча, да 1 верасня 2012 года асноўныя аб’екты дарогі так і не былі завершаны.

Але самае цікавае - узнікае пытанне: а як жа распараджэнне Лукашэнкі аб будаўніцтве аўтабанаў па нямецкаму ўзору?

Ці звяртаў увагу Міхаіл Уладзіміравіч на адсутнасць на аўтадарозе неабходнай колькасці аб’ектаў прыдарожнага сервісу? А дакладней - на яго прысутнасць у самай мінімальнай колькасці.

Ну, скажам, набудавалі аўтазаправачных станцый... А як жа з аб’ектамі па тэхнічнаму абслугоўванню і рамонту аўтатранспартных сродкаў? Як жа з месцамі для адпачынку з прыстойнымі прыбіральнямі, дзе можа быць і халодная і гарачая вада?

Бо зараз у любым месцы аўтадарогі па сваіх патрэбах у лес не збегаеш. Там, дзе дарога праходзіць праз лясныя масівы, усталявана сеткавая агароджа.

Даручэнні прэм’ера аб неабходнасці прапрацаваць добраўпарадкаванне аб’ектаў прыдарожнага сервісу, правесці інвентарызацыю дзеючых аб’ектаў і адрамантаваць іх, калі ў гэтым ёсць патрэба, вырашыць пытанне аб будаўніцтве новых, так і засталіся не выкананымі.

І зусім абсурдным выглядае рашэнне аб пераводзе аўтадарогі М-4 Мінск-Магілёў у першую катэгорыю з забяспячэннем на яе ўчастках хуткаснага рэжыму транспартных сродкаў да 120 км/гадз. А куды падзецца трактары, камбайны, іншую сельскагаспадарчую тэхніку размешчаных уздоўж трасы сельскагаспадарчых прадпрыемстваў? Бо іншых дарог для іх перамяшчэння проста не існуе. А прысутнасць на аўтадарозе сельгастэхнікі не дазваляе яе перавод у першую катэгорыю.

Як бы не стараўся Міхаіл Уладзіміравіч, найлепшым кантралёрам, які дасць ацэнку і яму, і будаўнікам, будзе ўсёж-такі чарговая зіма. Шкада будзе, калі “аўтабан” ператворыцца ў аўтадарогу, падобную па якасці да ўчастка гэтай жа дарогі ў раёне гарадскога пасёлка Смілавічы…

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## БЫЛОГА КІРАЎНІКА БРСМ АСУДЗІЛІ НА 7 ГОД КАЛОНІІ ЎЗМОЦНЕНАГА РЭЖЫМУ




Леаніда Кавалёва прызналі вінаватым у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры.

Паводле амністыі Леаніду Кавалёву скасавалі 1 год. Такім чынам, пакаранне склала 6 год пазбаўлення волі. Былога кіраўніка БРСМ прызналі вінаватым у атрыманьні хабару ў асабліва буйным памеры, паведамляе Радыё Свабода.

Таксама суд прызнаў грамадзяніна Эстоніі Гунара Каал вінаватым у тым, ён што спрыяў атрыманню хабара. Яго асудзілі на 5 год пазбаўлення волі. Гунара ўзялі пад варту ў зале суда.

Працэс над былым намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама, а яшчэ раней першым сакратаром ЦК БРСМ Леанідам Кавалёвым праходзіў у Мінскім гарадскім судзе.

Суд пачаўся яшчэ ў мінулым годзе, але толькі 22 жніўня з’явілася першая афіцыйная інфармацыя па гэтай справе. Кавалёва абвінавацілі паводле ч. 3 арт. 430 Крымінальнага кодэкса (атрыманне хабару службовай асобай).

У справе фігуравала сума хабару ў 2,5 тыс. еўра. Затрыманы Кавалёў быў у чэрвені 2011 г.

# НЕПРИЧЁСАННЫЕ МЫСЛИ



*Зинаида Милещенко*

7 сентября в Круглом состоялись районные «дожинки», которые вызвали много вопросов. Во-первых, почему в будний день, когда все основные труженики на рабочих местах? Во-вторых, почему не было обещанной ярмарки сельхозпродуктов?

Оказывается, всё очень просто: «первое» лицо района, председатель райисполкома господин Дутько в субботу выдавал замуж дочь, поэтому весь праздник села был перенесён специально «для одного дяди». Да кто же против того, что свадьба дочери – событие, важное для отца! Вопрос в том, почему лишили полноценного праздника и сельских тружеников, которые готовились к нему, и жителей посёлка? Ведь зрителей на стадионе было «кот наплакал», всё основное население работало.

Что с нами произошло? Откуда этот страх перед вышестоящим чиновником? И откуда у самого, даже мелкого чиновника эта мания величия, эта вседозволенность, эти мысли, что без него не может произойти никакое событие? Разве так важно было сельским работягам, кто вручил бы им грамоты? Второе, третье или десятое лицо, сидящее в кресле «дома советов»? Обидно было и то, что были организованы мини-выставки разными организациями, но на эту красоту некому было смотреть. Почему не был организован хотя бы подвоз автобусами самих сельских тружеников, их семей. Ведь, думаю, многие бы хотели попасть в райцентр, но не смогли.

Как часто в последнее время при встречах с людьми мы дискутируем: что нужно сделать, чтобы сократить эту непомерную армию чиновничьего аппарата? И куда их деть? Ведь они разучились работать!

Моё мнение такое. Человек начинает трудиться, когда видит свою выгоду. А выгода заключается в том, что, занимаясь другим делом, я смогу больше заработать. Деньги, как бы мы не пытались их принизить, приносят нам относительную свободу.

Сейчас нужно дать большее развитие малому и среднему бизнесу. И льготами в выплате налогов поддержать тех, кто будет заниматься производственным или сельскохозяйственным бизнесом. Эта огромнейшая армия чиновников сможет реализовать свой потенциал в разных отраслях народного хозяйства, ведь чиновники - это образованные грамотные люди, многие предприимчивые, но лишённые инициативы из-за страха не найти себя в другом деле. Люди так «затурканы», что боятся сделать первый шаг к свободе.

Запуганы даже предприниматели, которые чувствуют себя относительно свободными. Драконовские законы не позволяют во многом развивать бизнес. Для многих он так и остался «колёсным», где рабочее место – рынок. Они молодцы, наши предприниматели, благодаря им мы не видим пустые полки. Как говорят в народе, есть всё, были бы деньги! Но вот их– то катастрофически и не хватает, хотя мы и миллионеры.

Приобретя относительную экономическую стабильность, мы потеряли самое ценное, без чего не может развиваться ни бизнес, ни сельское хозяйство, ни управление: МЫ ПОТЕРЯЛИ СВОБОДУ, а с ней и возможность развиваться. Произошло из-за нашего попустительства закабаление всех слоёв населения Республики Беларусь. Я не вижу признаков свободы даже «наверху», когда высших чиновников «распинают» на всю страну. И они молчат!!! Молчит весь народ!!!

Что же должно произойти, чтобы мы перестали терпеть и молчать? Мы должны избавиться от страха! Всех не пересажают, не лишат работы, не выгонят из страны. Давайте вернёмся к самим себе. Спросим с себя, правильно ли я живу? Правильно ли руковожу? И что мы, уходя, оставим своим детям! Разворованную страну, где все будут бояться друг друга или начнём её возрождать. И начнём с себя!!! Уже сегодня! Уже сейчас!

А иначе скоро будут праздновать «дожинки» и для нашего народа, нашей нации. И ради какого-то дяди!

***Зинаида Милещенко***

## ИНФЛЯЦИЯ НАБИРАЕТ ОБОРОТЫ




Темпы инфляции в Беларуси продолжают ускорятся. В августе инфляция составила 2,3% достигнув таким образом 14,6% в годовом исчислении.

Согласно данным Белстата, в августе в Беларуси потребительские цены на товары и услуги выросли на 2,3%. По данным ведомства, за 8 месяцев текущего года инфляция составила 14,6%.

Таким образом, августовская инфляция стала самой высокой в нынешнем году, так как по итогам месяца рост цен пока не превышал 1,9%.

Напомним, что согласно прогнозу Минэкономики на 2012 год, правительство намерено удержать инфляцию в пределах 19-22%. Однако, эксперты считают этот прогноз излишне оптимистичным.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# "ЯК МЫ ДАЙШЛІ ДА ТАКОГА ЖЫЦЦЯ І ШТО РАБІЦЬ ДАЛЕЙ?"

***Гэтае традыцыйнае пытанне абмяркоўвалася чарговы раз падчас сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі ўраду і Нацыянальнага банку.***



– К концу года мы гарантированно выйдем в среднем на 500 долларов, – заявіў кіраўнік Беларусі, зрабіўшы націск на "в среднем".

Маўляў, калі ваш асабісты заробак не дацягвае да гэтага ўзроўню, парадуйцеся за тых, хто мае больш, і забяспечвае неабходную "сярэднюю тэмпературу па бальніцы".

Але на гэтым добрыя навіны практычна скончыліся. Пачаліся балючыя пытанні.

– С начала года темп инфляции составил 112%. И это при том, что курс белорусского рубля стабилен. Почему так происходит? – пацікавіўся Лукашэнка.

Насамрэч, нават паводле афіцыйных звестак, інфляцыя з пачатку 2012-га ўжо склала каля 15%. Рэальна ж гэтую лічбу трэба памнажаць прынамсі на 2...

– Какие конкретно меры принимают правительство и Нацбанк по решению имеющихся проблем? Как объективно оценивается ситуация текущего и следующего годов? Как будет обеспечена экономическая безопасность страны? За счет каких действий в этих условиях будут обеспечены рост экспорта и положительное сальдо внешней торговли в текущем году и в 2013-м? – сыпаў пытаннямі Лукашэнка.

Адказы на іх пачуць было б вельмі цікава. Аднак афіцыёз абмежаваў інфармацыю з гэтага мерапрыемства толькі цытатамі з прамовы Лукашэнкі. Падобна, што нават адносна аб'ектыўная ацэнка сітуацыі з боку ўраду і Нацыянальнага банку выглядае не надта аптымістычнай.

Канкрэтыку, як заўжды, кампенсавалі лозунгамі. "Мы должны выйти на траекторию выполнения показателей всей пятилетки... На всех уровнях государственной вертикали следует ввести тотальную мобилизацию кадров для решения обозначенных вопросов", – патрабаваў з грозным выглядам твару Лукашэнка.

"Татальная мабілізацыя" абвяшчаецца ў Беларусі штогод, аднак далей за заклікі справа не ідзе. Адныя і тыя ж праблемы застаюцца невырашанымі, хоць кіраўнік дзяржавы згадвае іх рэгулярна.

Колькі да прыкладу Лукашэнка казаў пра неабходнасць мадэрнізацыі прадпрыемстваў?.. І вось 11 верасня прагучаў яшчэ адзін, сто першы загад:

– У каждого руководителя предприятия, который выпускает в месяц даже две табуретки или один письменный стол, на столе должен лежать план модернизации предприятия по выпуску конкурентоспособной продукции, ориентированной на экспорт и импортозамещение.

Табурэтка апошнім часам ператвараецца ў нейкі фетыш. На мінулым тыдні прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч распавядаў пра "чатыры нагі інвестыцыйнай табурэткі". Цяпер яна патрапіла на язык самому кіраўніку дзяржавы. Сімвалічна, што табурэтку, вельмі простую і састарэлую рэч, згадваюць у сувязі з мадэрнізацыяй. Кантраляваць якую будзе не менш састарэлы Пётр Пракаповіч, які цяпер займае пасаду памочніка прэзідэнта – "ему поручено провести проверку каждого предприятия на предмет модернизации".

Калі мадэрнізацыю на ўзроўні КОЖНАГА прадпрыемства будзе курыраваць 70-гадовы Пракаповіч, які летась перанес аперацыю на сэрцы, то, прабачце, загнецца або ён, або мадэрнізацыя, або абодва.

На заканчэнне Лукашэнка выдаў перл, які гучыць нібы прысуд існуючай сістэме:

– Наши министры и губернаторы в предыдущие годы привыкли только осваивать выделенные из бюджета средства. А где ваша конкретная работа?

Вось толькі гэтае пытанне можна і трэба адрасаваць таксама самому Лукашэнку.

***Валянцін СЫЧ, "Тут і цяпер"***

# ГРИГОРИЙ КОСТУСЁВ: МЫ СДЕЛАЕМ СВОЕОБРАЗНЫЙ СРЕЗ ТОГО, КАК ПРОШЛО ГОЛОСОВАНИЕ



*Григорий Костусёв*

Неумолимо приближается как день выборов, так и день, когда достаточно большая часть зарегистрированных кандидатов заявит о своём снятии в выборов. Чем до 23 сентября будут заниматься партии, кандидаты которых сойдут с избирательного марафона? Об этом корреспондент www.Euramost.org узнал у заместителя председателя Партии БНФ Григория КОСТУСЁВА.

— *Уже известно, что 15 сентября, на своём съезде, Партия БНФ объявит о снятии с выборов всех своих кандидатов. Чем до 23 сентября, дня голосования, будет заниматься партийный актив, на что будет направлена его работа?*

— То, что 15 сентября будет принято такое решение, ещё не значит, что мы сразу же, в тот же день 15 сентября все поголовно снимемся! Процедура снятия с выборов может растянуться и на целую неделю. Пока все необходимые документы будут оформлены, пока их передадут в Центральную комиссию… Так, что – работа с избирателями всё это время будет продолжаться. Когда кто подаст документы на снятие?.. Мы же не оговариваем жёсткие сроки, что, мол, уже 15 числа мы всё должны подать. 15 сентября – суббота. В воскресенье – в комиссиях выходной. А понедельник – это уже 17 число. А там, смотришь, уже и 20 число близко. Так что – будем работать с населением.

— *Будет ли партия направлять своих наблюдателей в участковые избирательные комиссии, для работы на избирательных участках?*

— Конечно. Мы уже это обсуждали и у нас уже готов список наблюдателей в 101 округе Минска – к нему особенное внимание. Будет и ещё несколько таких знаковых округов. И везде, где есть наши люди, где есть наши организации, есть наши представители в регионах – там так же постараемся поднять, как говорится, все штыки на наблюдение.

— *И сколько по предварительным подсчётам этих штыков удастся поднять по всей Беларуси?*

— Хоть мы этот вопрос и обсуждали, но я не ставил для себя такой цели – посчитать, каково этих людей общее количество. Но это не менее, чем несколько сотен человек по всей стране.

— *Перед своими наблюдателями вы какую основную задачу будете ставить: попытаться отследить, как будет проходить процесс подсчёта голосов, или, как ваши коллеги из Объединённой гражданской партии и некоторых других структур будете вести подсчёт пришедших голосовать на избирательные участки?*

— Из опыта прошлых компаний мы знаем, что наблюдать за подсчётам голосов практически невозможно. Во время подсчёта голосов наблюдатели имеют возможность наблюдать исключительно филейные части членов избирательной комиссии. Поэтому, лучшее – наблюдение за тем, сколько людей придёт на участки и их подсчёт. Что бы иметь возможность засвидетельствовать реальное количество тех, кто пришёл голосовать.

— *Закрыть все участки своими наблюдателями вы не сможете. Что вам дадут данные из этих нескольких сотен участков, где будут ваши люди?*

— Показатели по всей страны будут практически одинаковые. А это будет своеобразный срез. Поэтому, если будет организованно наблюдение на нескольких знаковых участках, то можно будет с уверенностью заявить, что везде выборы прошли идентично тем участкам, которые мы контролировали. Может, небольшие расхождения и будут, но в основном показатели везде будут приблизительно одинаковые.

***Василь СЛУШНЫ***

## ЛУКАШЭНКА ХОЧА ЗАБРАЦЬ КВАТЭРЫ Ў “НЕСУМЛЕННЫХ” ІЛЬГОТНІКАЎ

Кіраўнік дзяржавы патрабуе разабрацца з чэргамі на жытло.

Такая заява прагучала падчас дакладу ўрада і Нацбанка аб працы эканомікі за сёлетнія 8 месяцаў. Падчас дакладу прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч прывёў прыклады, калі пабудаваныя з дзяржпадтрымкай кватэры перапрадаюцца ці здаюцца ўнаймы.

Аляксандр Лукашэнка загадаў да 2 красавіка “імем рэвалюцыі” правесці праверку тых, хто пабудаваў кватэры з дзяржпадтрымкай — шматдзетных, вайскоўцаў і г.д. З тымі, каго зловяць на гарачым, размова будзе кароткай, паабяцаў кіраўнік Беларусі. Як адзначае БелаПАН, у тых, хто здае такую “ільготную” кватэру, Лукашэнка загадаў адбіраць жытло.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# РЫГОРА КАСТУСЁВА НЕ ПУСКАЛІ СУСТРЭЦЦА З ВЫБАРШЧЫКАМІ




11 жніўня ў 7-30 раніцы кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, намеснік старшыні КДК краіны Аляксандр Агееў праводзіў сустрэчу з выбаршчыкамі на бялыніцкім прадпрыемстве – цэху па вытворчасці сыроў ААТ "Бабулін гладыш". Альтэрнатыўнага кандыдатаў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, намесніка старшыні Партыі БНФ Рыгора Кастусёва, які выпадкова даведаўся пра сустрэчу, спрабавалі не дапусціць на прадпрыемства.

"Пра тое, што ў Аляксандра Агеева сёння раніцай запланаваная сустрэча з выбаршчыкамі Бялыніцкага цэха па вытворчасці сыроў ААТ "Бабалін гладыш" я даведаўся ад сваёй даверанай асобы, бялыніцкага актывіста партыі БНФ Мікалая Мяцеліцы, - распавядае Рыгор Кастусёў. – Яму паведамілі пра гэта работнікі прадпрыемства, сказалі, што ў 7-30 раніцы 11 жніўня ўсім загадана быць на сустрэчы кандыдатам-начальнікам. Мы вырашылі таксама паўдзельнічаць у гэтай сустрэчы, каб данесці да выбаршчыкаў сваё бачанне сітуацыі ў акрузе і ў краіне. Калі мы раніцай разам з Мікалаем Мяцеліцам прыехалі на прадпрыемства, то ахова нас не прапусціла на яго тэрыторыю. Пасля гэтага з'явіліся Аляксандр Агееў і суправаджаючыя яго прадстаўнік акруговай камісіі Шклоўскай выбарчай акругі № 90, а таксама дырэктар цэха па вытворчасці сыроў ААТ "Бабулін гладыш" Тамара Галёта. Яны доўга раіліся, таксама не хацелі пускаць нас на сустрэчу, аднак урэшце-рэшт пасля нашых настойлівых патрабаванняў вымушаны былі прапусцісь. Дарэчы, многія выбаршчыкі - супрацоўнікі прадпрыемства мелі магчымасць самі пабачыць, якія адносіны да апазіцыйнага кандыдата. Карацей, на сустрэчу з выбаршчыкамі давялося літаральна прарывацца з боем. Ды і там не адбылося без казусаў. Аляксандр Агееў выступаў вельмі доўга, а мне на выступ пакінуў каля трох хвілін. Аднак і за гэты час я паспеў сказаць тое, што я думаю пра гэтыя "выбары", і людзі вельмі станоўча ўспрынялі маю прамову".

Давераная асоба кандыдата ў дэпутаты Рыгора Кастусёва, бялыніцкі прадпрымальнік Мікалай Мяцеліца кажа, што быў здзіўлены адносінамі адміністрацыі цэха да альтэрнатыўнага прэтэндэнта.

"На мой погляд, адміністрацыя цэха па вытворчасці сыроў ААТ "Бабулін гладыш" паступала вельмі непрыгожа, не даючы Рыгору Кастусёву прыняць удзел у сустрэчы з выбаршчыкамі. Толькі атрымаўся ў іх адваротны вынік. Людзі палухалі прамовы кандыдатаў і зрабілі свае высновы. Ужо некалькі чалавек падыходзілі да мяне і казалі, што Кастусёў вельмі добра выказаўся пра тое, што адбываецца ў нашай краіне і якія ў нас "выбары".

***Іван Барысаў***

## МАГІЛЁВЕЦ ЮРЫЙ НОВІКАЎ АШТРАФАВАНЫ НА 4 МЛН РУБЛЁЎ

Такі прысуд абласному каардынатару кампаніі "За справядлівыя выбары-2012" 11 верасня вынес суд Ленінскага раёна Магілёва.

Актывіста асудзілі за распаўсюд матэрыялаў для падрыхтоўкі назіральнікаў. Суддзя Аксана Ратнікава палічыла, што брашуры, сшыткі для назіральнікаў і інфармацыйныя бюлетэні, якія перавозіў на сваёй машыне Новікаў, з'яўляюцца сродкамі масавай інфармацыі і трапляюць пад закон "Аб СМІ".

З рашэннем суда Новікаў не згодны і збіраецца яго абскарджваць у вышэйшым судзе.

Нагадаем, што машыну актывіста спынілі 23 жніўня супрацоўнікі ДАІ. Для разбіральніцтва яму прапанавалі праехаць у РАУС. Пры аглядзе машыны ў багажніку знайшлі літаратуру, прысвечаную назіранню за выбарамі. Усю прадукцыю міліцыянты канфіскавалі.

## НА ВАЛЮТНЫМ РЫНКУ НАРАСТАЕ НАПРУЖАНАСЦЬ

На валютным рынку нарастае напружанасць, звязаная з набліжэннем «парламенцкіх выбараў». Навучаныя горкім вопытам, жыхары Беларусі разумеюць, што пасля «выбараў» у кіраўніцтва краіны знікне важны стымул захоўваць стабільнасць на валютным рынку і рыхтуюцца да непрыемнасцяў, піша profi-forex.by.

Дадзеных аб аб'ёмах продажу валюты за верасень яшчэ няма, але, мяркуючы па абменных пунктах Мінска, людзі зараз больш актыўна купляюць валюту. Да таго ж Нацбанк у жніўні некалькі несвоечасова аслабіў курс беларускага рубля ў адносінах да даляра (на 1,6%), што выклікала дадатковыя падазрэнні ў насельніцтва.

Негатыўнае ўздзеянне на стан рынку можа аказаць і паведамленне аб зніжэнні золатавалютных рэзерваў Беларусі ў жніўні.

***Радыё Рацыя***

# ЭКСПЕРТЫ: БЕЛОРУССКАЯ МИЛИЦИЯ - УДАРНАЯ СИЛА РЕПРЕССИЙ

***Большинство белорусов не считает милиционеров своими защитниками. По мнению экспертов, в Беларуси органы внутренних дел превратились в репрессивную машину, причем не только в отношении оппозиции.***

По оценкам правозащитников, все больше белорусских граждан за последние годы испытали на себе немотивированную агрессию со стороны сотрудников правоохранительных органов. Обычной практикой стали фальсификации административных дел и лжесвидетельства милиционеров в судах. Как сообщает газета министерства внутренних дел Беларуси “На страже”, ссылаясь на результаты недавнего исследования, проведенного информационно-аналитическим центром при администрации президента, только 34,7 процента граждан страны полностью доверяют органам внутренних дел.

Юрист Тамара Сергей отмечает, что правоохранительные органы Беларуси больше всего находятся в зависимости от различных структур исполнительной власти. Они выполняют порой незаконные указания чиновников, поэтому граждане поняли, что милиция больше не защищает их права, говорит юрист. “Я лично опасаюсь тех лиц, которые служат в этой системе”, - подчеркнула Тамара Сергей. По ее словам, правоохранительная система в Беларуси превратилась в структуру насилия. Для милиционеров нет разницы, осуществляется ли это насилие в отношении преступника либо в отношении человека, на которого укажет должностное лицо.

## Беззаконние со стороны милиции

Член Совета Правозащитного центра “Весна” Владимир Лобкович констатирует, что в Беларуси обычным явлением последних лет стало беспричинное задержание граждан милиционерами с последующим обвинением их в мелком хулиганстве. Сотрудники правоохранительных органов, как правило, обвиняют задержанных в сквернословии в общественном месте. Потом сами же свидетельствуют против них в судах. А суды прислушиваются исключительно к их словам, игнорируя показания противоположной стороны.

От лжесвидетельств со стороны милиции до недавнего времени страдали в основном активисты оппозиционных партий, демократических молодежных организаций. Но не только они. По надуманным причинам задерживались и обвинялись в мелком хулиганстве известные художники, журналисты, правозащитники и даже ученые. Так, 1 июня “за сквернословие” к пяти суткам ареста был приговорен академический директор Белорусского института стратегических исследований (Литва), профессор Европейского университета в Санкт-Петербурге Алексей Пикулик. Милиционеры показали в суде, что ученый громко нецензурно выражался во дворе дома, а потом начал их оскорблять.

Кроме того, правозащитники напоминают о “профилактических” облавах, проводимых милицией на дискотеках как в Минске, так и в регионах. В результате таких рейдов за мелкое хулиганство были задержаны десятки молодых людей, которые подверглись наказанию в виде штрафа либо административного ареста. Вторгались сотрудники милиции и в частные дома, где проводились богослужения, обвиняя граждан в проведении несанкционированного мероприятия.

Задержанные участники акций протеста, а также прошлогодних флешмобов отмечали необычайную жестокость представителей правоохранительных органов как в “автозаках”, так и в милицейских участках. Там задержанных избивали, не давали ходить в туалет, оставляли без еды и воды на продолжительное время,




заставляли часами стоять на холоде лицом к стене с поднятыми руками.

## Слуги режима

Политолог Александр Класковский считает, что специфика политического руководства в Беларуси деформировала институт милиции. Заинтересованный в сохранении власти режим настаивает на подавлении любой активности. Поэтому, говорит эксперт, милиция превратилась в ударную силу репрессий. А это идет в ущерб ее основной деятельности по охране правопорядка, уверен Александр Класковский. По мнению юриста Тамары Сергей, противостоять беззаконию может только сильное гражданское общество. Но оно в Беларуси находится еще только в стадии становления, считает эксперт.

***Deutsche Welle***

## МЧСники спасли в Шклове мужчину, застрявшего в заборе




Сотрудников МЧС на улицу Молодежная вызвала похожая: между плит железобетонного забора застрял человек.

Пьяный 52-летний мужчина лез в проем забора, не рассчитал своих габаритов – и застрял. МЧСники освободили его с помощью специнструментов.

## 8 ВЕРАСНЯ БЯЛЫНІЦКАЯ І КРУГЛЯНСКАЯ РАЁНКІ ВЫЙШЛІ З "ПАГОНЯЙ"



Раённыя газеты паўночнай Магілёўшчыны – бялыніцкая "Зара над Друццю", круглянская "Сельская жыццё" і шклоўскі "Ударны фронт" – надрукавалі перадвыбарчыя праграмы кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Шклоўскай выбарчай акрузе № 90. Паказальна, што 8-га верасня круглянская і бялыніцкая раёнкі змясцілі перадвыбарчую праграму Рыгора Кастусёва і Партыі БНФ "Абарона нацыянальных інтарэсаў гарантыя парадку і дабрабыту на нашай беларускай зямлі" з старажытным беларускім гербам "Пагоня". Шклоўская раённая газета "Ударны фронт" 5 верасня "Пагоню" побач з перадвыбарчай праграмай кандыдата ў дэпутаты Рыгора Кастусёва не змясціла. Нагадаем, што 8 верасня ў Беларусі адзначаецца Дзень беларускай вайсковай славы. Менавіта ў гэты дзень у 1514 годзе войскі Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем князя Канстанціна Астрожскага у бітве пад Оршай ушчэнт разгрamілі на шмат большае войска Маскоўскага княства.

" Я спецыяльна прасіў рэдактараў усіх раённых газет, якія выходзяць на тэрыторыі Шклоўскай выбарчай акругі № 90, змясціць побач з маёй перадвыбарчай праграмай "Абарона нацыянальных інтарэсаў – гарантыя парадку і дабрабыту на нашай беларускай зямлі" выяву "Пагоні", - кажа Рыгор Кастусёў. – Нават казаў, што гэта можна зрабіць, калі патрэбна, за кошт скарачэння тэкставага матэрыяла. Людзям патрэбна нагадваць пра свяшчэнныя беларускія сімвалы. Я ўдзячны рэдакцыйным калектывам круглянскага "Селькага жыцця" і бялыніцкай "Зары над Друццю" за тое, што яны маю просьбу ўлічылі. Чаму для "Пагоні" месца не хапіла ў шклоўскай раённай газеце "Ударны фронт", я не ведаю. Няхай гэта застанецца на іх сумленні".

***Сяргей Семяновіч***

## АЛКАГОЛЬ МАЛА ЎПЛЫВАЕ НА РЭПРАДУКЦЫЙНЫЯ ЗДОЛЬНАСЦІ МУЖЧЫН

Апублікаваныя вынікі даследавання ўплыву спажывання алкаголя і тытуню, а таксама лішняй вагі на рухомасць сперматазоідаў у мужчын і іх здольнасць мець нашчадкаў

Група брытанскіх і канадскіх навукоўцаў прааналізавалі звесткі аб 780 мужчынах-пацыентах клінік рэпрадукцыйнага здароўя ў Вялікабрытаніі, якія пэўны час не маглі зачаць дзіця. Яшчэ 1,5 тысячы мужчын былі "кантрольнай групай". У выніку, ніякай сувязі паміж малой рухомасцю сперматазоідаў са спажываннем алкаголю, паленнем ці выкарыстаннем псіхаактыўных прэпаратаў знойдзена не было.

У той жа час навукоўцы падкрэсліваюць, што вынікі гэтага даследавання нічога не кажуць пра стан ДНК, пра здароўе і магчымыя генетычныя адхіленні ў нашчадкаў, інфармуе РІА "Новости".

## ТРАГЕДИЯ В ШКЛОВЕ

7 сентября в 21-20 в г. Шклове в цеху ОАО «Бумажная фабрика «Спартак» мастер указанной организации 1987 г.р., находясь на рабочем месте, упал в продольно-резочный станок, получив смертельную травму. Проводится проверка.

## МИНА В ОСЛИВКЕ

В прошлое воскресенье на обочине дороги Минск–Могилев в районе деревни Осливка Белыничского района при проведении земляных работ была обнаружена 45-миллиметровая мина времен Великой Отечественной войны. Прибывшей саперно-пиротехнической группой она обезврежена.

## МОГИЛЕВЩИНА ЖИВЕТ ЗА СЧЕТ ГАЗА, ВОДКИ И ПИВА




За январь-июль 2012 года 934,4 миллиарда рублей налоговых платежей уплачено в консолидированный бюджет Могилевской области крупными организациями региона.

Как сообщили корреспонденту сайта "Товарищ.online" в отделе информационно-разъяснительной работы Министерства по налогам и сборам Республики Беларусь, "по отношению к аналогичному периоду 2011 года поступления снизились на 12,5% или на 132,9 миллиарда рублей. На долю указанных плательщиков приходится 30,9% от общих поступлений в целом по области".

Лидирующие позиции занимает РУП "Могилевоблгаз" - 7,3% в общих поступлениях по области, РУП "Климовичский ЛВЗ" - 5,9%, ИЗАО "Пивоварни Хайнекен" также 5,9%, РУП "Могилевэнерго" - 2%.

***Федор Костров, "Товарищ.online"***

## Анекдот дня

Всем моим ошибкам есть оправдание: я живу в первый раз.

ПАХОДНЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 12.09. 2012 г. у 14-00.